ТЭЛЕПРАГРАМА НА НАСТУПНЫ ТЫДЗЕНЬ – на 3-й старонцы

*Свабода, роўнасць, братэрства!*




ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!
**НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ДЭМАКРАТЫЧНАЯ ГАЗЕТА**

**Заснавана ў 1991 годзе №3 (59). Субота, 17 ліпеня 1999 г. У розніцу кошт 10000 руб.**

# НАВІНЫ, ПАДЗЕІ, ФАКТЫ

Адзіная для ўсіх рэгіёнаў Беларусі норма мінімальнай агульнай плошчы — 15 квадратных метраў на чалавека — устаноўлена новым жыллёвым кодэксам Рэспублікі Беларусь, які ўступіў у сілу з 1-га ліпеня.

Новы кодэкс адмаўляе ў праве "расшырацца" тым, хто мае ва ўласнасці жылыя памяшканні ў дадзеным населеным пункце, але не пражывае ў іх.

Закон ідзе насустрач грамадзянам, якія рэальна маюць патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў. Цяпер права на асобную кватэру маюць тыя, хто дзеліць жылую плошчу з іншымі наймальнікамі.

***

Расаднікамі пустазелля сталі прыфермскія ўчасткі ў многіх населеных пунктах Хоцімскага раёна. У вёсцы Маркаўка Трасцінскага сельсавета пустуе ферма, дзе раней стаялі на адкорме 400 галоў бычкоў. А вакол яе асот, лебяда, пырэй. Пустазелле ўжо паспела і вецер разносіцьпа прысядзібных участках жыхароў вёскі насенне яго. І нікога гэта не хвалюе — ні кіраўніцтва саўгаса "Трасціно", ні работнікаў сельскага савета.

І так з года ў год. Сёлета маркаўцы замучыліся на прапалцы сваіх участкаў, бо пустазелле зацягнула іх суцэльным каўром.

***

У калгасе "III Інтэрнацыянал" Хоцімскага раёна зараслі пустазеллем кругавіны вакол слупоў электраліній, якія гадамі не абкошваюцца. Вось адкуль і пустазелле на пасевах. Толькі купляй дарагія яды і вядзі хімпраполку штогод.

***

У вёсках Ветка і Шаладонаўка Хоцімскага раёна жыхары ходзяць за пітной вадой за паўкіламетра, а ў Ветцы людзі бяруць ваду нават з рэчкі. Ці доўга да інфекцыі? Гэтае пытанне абмеркавана на планёрцы ў райвыканкаме. Можа што зменіцца?

***

Група "зэкаў" з калоніі УЖ-15/22, што ў Івацэвічах, працуе ў калгасах раёна. Работа зняволеных задаволіла кіраўнікоў гаспадарак, і кіраўніцтва раёна звярнулася ў аддзел унутраных спраў з просьбай выдзеліць яшчэ адну групу ў паўсотню чалавек для нарыхтоўкі кармоў.

Асуджаныя працуюць добра і, галоўнае, як кажуць кіраўнікі калгасаў, усё разумеюць з паўслова. А вось з калоніі строгага рэжыму УЖ-15/5 выпускаць "зэкаў" на сенакос баяцца, таму сваю норму сена ў 60 тон павінен будзе накасіць увесь апарат супрацоўнікаў калоніі.

***

Гомельскімі апаратыўнікамі ўзбуджана крымінальная справа ў адносінах да галоўнага спецыяліста па кантролю за цэнамі Гомельскага гарвыканкама: ён падазраецца ў тым, што ўзяў хабар.

Высветлілася, што спецыялісту ўручылі будаўнічыя матэрыялы на суму 25 мільёнаў рублёў. Зразумела, "падарунак" ён атрымаў не за прыгожыя вочы. Як мяркуе следства, спецыяліст павінен быў у даведцы па праверцы гарбыткамбіната "забыцца" на парушэнні фінансава-гаспадарчай дзейнасці, якія былі выяўлены.

***

Дырэктар прыватнага прадпрыемства са жніўня 1995 года па сакавік 1998 года змог абвесці вакол пальца пяць фізічных асоб і адну юрыдычную. Следчым аддзелам Фрунзенскага РУУС Мінска распачата крымінальная справа па абвінавачванню дырэктара ПП "Рэй плюс". Устаноўлена, што ён нанёс сваім "кліентам" урон на суму 60 тысяч долараў і 175 мільёнаў рублёў. Мера стрымання для кіраўніка — змяшчэнне пад варту.

***

Бітва за ўраджай, якая зараз толькі пачынаецца, закончыцца ў Беларусі 24-25 верасня рэспубліканскім кірмашом "Дажынкі-99". На гэта мерапрыемства ўлады грошы не шкадуюць, будаўнікоў заклікаюць працаваць як мага хутчэй. І ўжо з'явіліся першыя ахвяры. Два будаўнікі загінулі ў Шклове, дзе яны працавалі на падрыхтоўцы збудаванняў да свята "Дажынкі-99". Адзін рабочы, якога накіравалі ў камандзіроўку з Магілёва зваліўся з рыштаванняў. Другі, які прыехаў дапамагаць з Віцебска, памёр ад пашкоджання токам. Яшчэ адзін будаўнік, мясцовы, з цяжкай траўмай знаходзіцца ў шпіталі. У Шклове спяшаюцца.

Цяпер тут будаўнікі з усёй Беларусі працуюць у дзве змены. Яны робяць новую транспартную развязку на Шклоў з боку Магілёва. Узводзіцца пуцепровад-мост. На цэнтральных вуліцах, Ленінскай і Савецкай, мадэрнізуюцца фасады пяціпавярховых дамоў. Мяняюць архітэктурнае аблічча аўтастанцыі, рамантуюць крамы, Дом Культуры, райвыканкам. Каля лазні будуюць дваццаціпяціметровы басейн. Пачалося лакальнае паглыбленне Дняпра. Насупраць райвыканкама ўзводзяць практычна новую плошчу з фантанам, сучаснай пліткай. Рэстаўрыруюць будынак ратушы, узводзяць новыя гандлёвыя рады. На ўсё гэта грошы ёсць, і вялікія. Між тым, у Шклове ў крамах нават цяпер, летам не проста купіць малако, кефір, сыр, мяса. У большасці калгасаў яшчэ не выплачваліся заробкі за красавік. У невялічкіх гарадах, як, напрыклад, Чаусы, Бягомль, Ганцавічы ды іншыя, ніяк не знойдуць і адной сотай часткі тых сродкаў, што накіроўваюць у Шклоў. А сумы, што выдзяляюцца Шклоўскаму раёну на ўгнаенні, газіфікацыю і іншыя патрэбы, перавышаюць сродкі на гэтыя ж мэты, якія атрымліваюць некаторыя вобласці.

***

У большасці раёнаў Камчацкай вобласці захоўваюцца абмежаванні на выкарыстанне электраэнергіі. У жылыя дамы электрычнасць падаецца 3-4 гадзіны за суткі. Паліва дастаўляецца танкерамі, хапае толькі для работы ЦЭЦ-2, якая забяспечвае цяплом і светам Петрапаўлаўск-Камчацкі.

***

Паўднёвыя раёны Алтайскага краю і Новасібірскай вобласці падвергліся нашэсцю саранчы, якая прыляцела з Казахстана. На Алтаі саранча знішчыла больш за 100 тысяч гектараў пасеваў, у Новасібірскай вобласці зернявыя і гародніна культуры знішчаны на 5 тысячах гектараў.

Становішча ўскладняецца тым, што ў рэгіёнах не хапае хімічных прэпаратаў для знішчэння шкоднікаў. Барацьба з саранчой эфектыўна толькі калі насякомыя знаходзяцца ў стадыі лічынак. Дарослая саранча знішчэнню практычна не паддаецца.

***

У Расіі сельскагаспадарчая тэхніка забяспечана палівам толькі на 10 працэнтаў. У некаторых раёнах тэхніка прастойвае з-за адсутнасці дызельнага паліва і бензіну. Гэта пагражае вялікімі стратамі зерня. Крытычнае становішча склалася больш як у 20 зерневытворчых рэгіёнах краіны.

***

Гомельская арганізацыя федэрацыі анархістаў Беларусі, арганізацыі маладзёжнага хрысціянскага сацыяльнага саюзу і Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады абвесцілі пра стварэнне беларускага антыфашысцкага цэнтру БАЦ. Неабходнасць кансалідацыі абумоўленая тым, што апошнім часам у Гомелі актывізавалася дзейнасць прафашысоўскіх аб'яднанняў, у прыватнасці рускага нацыянальнага адзінства.

На думку заснавальнікаў БАЦ прадстаўнікі РНА дзейнічаюць нахабна, як правіла ўкараняюцца ў маладзёвае асяроддзе, адкрыта распаўсюджваюць нацысцкую літаратуру і наладжваюць свае публічныя рэкламацыі на Плошчы Паўстання, на тым самым месцы, на якім у гады другой сусветнай вайны знаходзіўся фашысцкі канцлагер, дзе былі закатаваны 100 тысяч чалавек. У звароце да гамельчан сябры БАЦ выказалі просьбу дапамагчы ім спыніць нахабных фашыстаў.

# *Увага, конкурс!*



Незнаёмая.

## Паважаныя чытачы!

Мы адкрываем конкурс прыгажунь на прыз газеты "Беларускі Усход". На конкурс можна дасылаць здымкі жанчын любога ўзросту, жыхарак Магілёўскай, Гомельскай і Віцебскай абласцей.

Прадугледжаны чатыры прызы па ўзроставых групах:

1. Ад 12 да 16 гадоў.
2. Ад 17 да 35 гадоў.
3. Ад 35 да 50 гадоў.
4. Ад 51 года і старэй — без абмежавання.

Здымкі можна суправаджаць прыкладна такім зместам: Кацця Барысенка, узрост 20 гадоў, па гараскопу цялец. Любімы занятак — гатаваць і вязаць.

Можна прозвішча і не называць — толькі імя. Але для газеты асобна (не для друку) павінен быць указаны падрабязны адрас удзельніцы конкурсу.

Прызы будуць уручаны тым жанчынам, па кожнай узроставай групе, здымкаў якіх больш за ўсіх дашлюць чытачы ў рэдакцыю газеты. А рабіць гэта трэба так: калі чытач лічыць, што яму спадабаецца тая ці іншая дзяўчына, жанчына, ён выразае з газеты здымак і ў канверце высылае яго ў рэдакцыю.

Першы этап конкурсу працягнецца да канца 1999 года. У студзені 2000 года рэдакцыя падлічыць колькасць атрыманых здымкаў кожнай прэтэндэнткі і вызначыць, каму ўручыць прыз "Самая прыгожая жанчына (дзяўчына) з Беларускага Усходу".

Аб пераможцах конкурсу ў газеце будуць змешчаны замалёўкі ці нарысы.

***Удзельнічайце ў конкурсе "Самая прыгожая жанчына (дзяўчына) з Беларускага Усходу"!***

**Рэдакцыя.**



**Прыгожая і прывабная.** Фота В. БЫСАВА.

